

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 38 (66) 8—14 снежня 1993 г. Кошт 15 руб.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА РАЗВІВАЕЦЦА

**Тыдзень—з 15 да 22 лістапада—правяла ў ніжнесаксонскім гарадку Нінбург дэлегацыя дэмакратаў (БНФ, БСДГ, БХДЗ, клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары») і прадпрымальнікаў-пачаткоўцаў з абласнога цэнтра. Па запрашэнню арганізацыі па міжнародных кантактах (IBW) яна прыняла ўдзел у семінары па камунальнаму самакіраванню Нямеччыны.**

У рамках семінара госці наведалі кіраўніцтва горада-пабраціма, сустрэліся з рэдактарамі рэгіянальнай нінбургскай газеты «Дзі Харке». У Гановеры віцябляне пабачылі ландтаг, гутарылі з дэпутатам-хадэкам (ХДС) Рольфам Рэйнеманам, які распавёў пра тое, як праходзяць пасяджэнні зямельнага парламента.

Нашы палітыкі пабывалі таксама ў бюро гарадскіх арганізацый Хрысціянска-дэмакратычнага саюза, сацыял-дэмакратаў, «зялёных», дзе пазнаёміліся з формамі работы гэтых партый у Нінбургу й ваколіцах.

Немалую ўвагу, дзякуючы руплівасці гаспадароў, віцебскія дэмакраты і бізнесмены прысвяцілі і культурнай праграме. Яны зрабілі экскурсіі па Нінбургу, суседняму старажытнаму Цэле, паслухалі цудоўны канцэрт віцебскага народнага камернага хору ПК прафсаюзаў у Штэербергу. Пачаставаліся ў кітайскім рэстаране.

У Берген-Бельзене дэлегацыя ўсклала кветкі на могільніку савецкіх палонных, забітых у час Другой сусветнай вайны.

Побыт віцяблянаў завяршыўся падпісаннем паміж штотыднёвікам «Выбар» і нінбургскай філіяй арганізацыі па міжнародных кантактах пратакола аб супрацоўніцтве на будучы год, які будзе, пэўна, надрукаваны ў бліжэйшых нумарах нашае газеты.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**



Дэлегацыя віцебскіх палітыкаў наведала штодзённую «Дзі Харке», дзе сустрэлася з шэф-рэдактарам Геро Замерфельдам (справа) і рэдактарам Юргенам Хекманам (другі справа).
Фота: БЕРНАРД.

### НА 8—МІ СТАРОНКАХ:



### Свет вакол нас

● У 1993 г. кошт заграгічных інвестыцый у Кітай можа перавысіць суму ў 100 млрд. USD, што ўдвая болей, чым летась.

● Інфляцыя ў новай Югаславіі дасягнула ў кастрычніку 2000%. Дагэтуль рэкордным быў жнівень (1880 працэнтаў).

*Калонка палітычнага аглядальніка*

## «Новыя» камуністы

Па краінах, што ўтварыліся на тэрыторыі былой камуністычнай імперыі і яе сатэлітаў, пракацілася хваля перамог былых камуністаў у свабодных парламенцкіх выбарах. Але не ўсё так проста, як здаецца тым палітычным дзеячам, што паспяшаліся зрабіць для сябе аптымістычныя прагнозы і выкарыстаць гэты феномен у прапагандзе сваіх ідэй. Першае—трэба ўлічваць, што паўсюль, дзе гэта здарылася, «левыя» прыйшлі да ўлады дзякуючы сістэме дэмакратыі, усталяванай іхнымі папярэднікамі-антыкамуністамі. Такім чынам, дэмакраты-антыкамуністы самі ўсталявалі такі парадак, які дазволіў народу свабодна і без працяглай барацьбы пазбавіць іх улады. Прыгадаем, што пазбавіцца ад камуністаў гэтым краінам удалося толькі шляхам рэвалюцый, дзе «аксамітных», а дзе й крывавых. Таму, дарэчы, варта дачакацца наступных выбараў, каб паглядзець, як усё абыдзецца гэтым разам.

Па-другое—тыя былыя кіруючыя камуністычныя партыі даўно памянялі назвы (каб нават не пахла «камунізмам») і палітычныя платформы, часцей за ўсё на сацыял-дэмакратычныя, што таксама магло паспрыяць ім на выбарах.

На Беларусі камуністы перакладлі ўладу з рукі ў руку і ў працэсе пазбавіліся ад кампраметуючай назвы, а заадно і ад абрыдлай партыйнай дысцыпліны і «навязлівага» партыйнага кантролю (што за здольнасць усё на свеце паварочваць сабе на карысць!).

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Не ад добрага жыцця

Паважаныя выбаршчыкі! Прыхільнікі дэмакратыі! Сябры клуба «За дэмакратычныя выбары»! Адзінай дэмакратычнай арганізацыі віцебскіх выбаршчыкаў—гарадскому клубу «За дэмакратычныя выбары»—пагражае небяспека закрыцця.

У свой час клуб не прайшоў перарэгістрацыю. У сувязі з гэтым ён можа спыніць існаванне. Каб такое не здарылася, трэба сабраць суму ў восем мінімальных зарплат. Планка апошніх пастаянна ўзнімаецца. Пагэтаму клуб абвяшчае збор грошаў на сваю перарэгістрацыю. Ахвяраванні прымаюцца па месцы знаходжання тыднёвіка «Выбар» (вул. Гогаля, 17, чацвёрты паверх).

**Ю. С.**

## Не было шчасця, ды нядоля дапамагла

**Віншую ўсіх прыхільнікаў клуба «За дэмакратычныя выбары» з перарэгістрацыяй.**

Не хвалюйцеся, не звар'яцеў. Лічу, што калі б яе не было, то перарэгістрацыю трэба было зрабіць самім. Для нас гэта ўнікальны выпадак праверыць свае шэрагі: хто сапраўдны дэмакрат, а хто толькі балбатун...

Гэта, калі хочаце, наш агляд сілаў. Тры гады назад нас аб'яднала «души прекрасные порывы». Цяпер прыйшла пара самавызначэння. Час адказаць на пытанні: «Хто мы? Чаго хочам?». І канстытуіраваць нашыя мэты й задачы.

Ёсць і яшчэ адна прычына для радасці. Мы маем магчымасць праверыць нашыя ўладныя структуры, якія пры кожным зручным выпадку любяць сябе паказаць прыхільнікамі дэмакратыі. На агледзінах у замежжы яны выстаўляюць сябе самымі дэмакратычнымі дэмакратамі ў Віцебску.

І вось настаў час «Х», спадары дэмакраты з выканкамаў, рай-, гар-, аблсаветаў, пракуратуры, МУС і КДБ. Сістэматычна вашыя прадстаўнікі прысутнічаюць на паседжаннях нашага агульнага любімага клуба. Але за магчымасць любіць дэмакратыю, прадстаўляцца дэмакратам трэба плаціць. Прапаную вам, супрацоўнікі Саветаў, выканкамаў, МУС, КДБ, пракуратуры, унесці свой грашовы ўзнос у перарэгістрацыю клуба. І такім чынам, пацвердзіць прыхільнасць да дэмакратыі.

Грошы прымем і ад асоб, і ад калектываў.

**У. ПАДГОЛ.**

P.S. У звязку з рэзкім збліжэннем беларускага ўрада з расійскім раю антыдэмакратам з уладных структураў таксама ўнесці грашовы ўклад у перарэгістрацыю клуба, каб засведчыць перад Б. Ельцыным сваю прыхільнасць да дэмакратыі, што можа паспрыяць павелічэнню паставак газа і нафты з Расіі.

*Вяртаючыся да надрукаванага*

## Адказы атрыманы

У «Выбары» № 23 за гэты год была змешчана нататка «За чый кошт?», у якой паведамлялася, што «галоўны ўрач санаторыя «Лётцы» В. Полазаў узяў крэдыт у банку і будуе сабе катэдж». Задаваліся пытанні: дзе атрыманы крэдыт, на якую суму, чаму разлік за будаўніцтва вяла бухгалтэрыя санаторыя? Сп. Полазаў пакрыўдзіўся і звярнуўся ў суд з іскам аб абароне гонару і годнасці да рэдакцыі «Выбара» на суму 100 тысяч рублёў.

Цяпер штотыднёвік атрымаў адказы на пастаўленыя пытанні. Згодна з дакументамі, Віктар Полазаў заключаў крэдытныя дагаворы з Віцебскім аддзяленнем ашчадбанка двойчы—25 лістапада 1992 года на 1,08 млн. рублёў і 21 красавіка 1993 года на 3,4 млн. рублёў. Абодва крэдыты выдзелены на сорак гадоў (да 2033 г.) пад 5% гадавых. Акрамя таго, ён звярнуўся да кіраўніцтва фірмы «Беларуськурорт», якой падначалены санаторый «Лётцы». Рашэннем выканкама гэтай фірмы ад 20 кастрычніка 1992 года В. Полазаву выдзелена доўгатэрміновая беспрацэнтная ссуда на будаўніцтва садовага доміка ў памеры 1,5 млн. рублёў за кошт сродкаў санаторыя з пачаткам яе выплаты з кастрычніка 1995 года. Рашэннем Лятчанскага сельсавета ад 26 жніўня 1992 г. галоўурачу выдзелены зямельны ўчастак пад будаўніцтва жылога дома ў в. Малыя Лётцы. Генпланам прадугледжана ўзвядзенне двухпавярховага 5-ціпакаёвага жылога дома агульнай плошчай 130 $м^2$, жылой—120 кв. метраў. 11 снежня мінулага года Віктар Полазаў заключыў дагавор падрада на капітальнае будаўніцтва з Віцебскім міжгаспадарчым сельскім будкамбінатам. Згодна з дагаворам і ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Беларусі № 99 ад 24.02.92 г. заказчык аплочвае аванс у памеры 100% кошту будаўніча-мантажных работ месячнага аб'ёму работ не пазней 25 чысла папярэдняга месяца. 16 снежня 1992 года сп. Полазаў пералічыў на рахунак будкамбіната 700 тыс. руб. авансу з крэдыту, узятага ім у ашчадбанку. Праз два тыдні і бухгалтэрыя санаторыя пералічыла будкамбінату 1,5 млн. руб. —ссуду, атрыманую панам Полазавым ад «Беларуськурорта» (у адпаведнасці з рашэннем кіраўніцтва гэтай арганізацыі).

Пабудова дома пачалася ў лютым г. г. У перыяд з лютага па красавік будаўнічых работ выканана на суму каля 7 млн. рублёў. Паводле даведкі, якую даслаў у інспекцыю Кантрольнай палаты начальнік будкамбіната І. Свярдлоў, працы аплочаны В. Полазавым з улікам раней унесенага авансу ў 2 млн, 200 тыс. рублёў згодна плацёжных даручэнняў ад 24 красавіка, 8 чэрвеня, 21 і 23 ліпеня бягучага года.

Пытанні былі пастаўлены і адказы, як бачым, атрыманы.



# НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## Выступ лідэра парламенцкай апазіцыі БНФ Зянона Пазьняка

Спадары дэпутаты!

Галоўная віна Савета Міністраў і яго старшыні спадара В. Кебіча заключаецца, на мой погляд, у разбурэнні беларускай эканомікі, у знішчэнні яе перавагаў і стартавых магчымасцяў, у задушэнні нацыянальнай грашовай і фінансава-крэдытнай сістэмы і як вынік—у стварэнні рэальнай пагрозы незалежнасці і дзяржаўнасці Беларусі. Прычыны тут перш за ўсё суб'ектыўнага плану: некампетэнтнасць і свядомая арыентацыя на састарэлыя палітычныя прыярытэты насуперак эканамічным законам.

Палітычнымі прыярытэтамі ў Старшыні Саўміна ніколі не былі рынкавая эканоміка і незалежная беларуская дзяржава. Урадавыя інтарэсы былі і застаюцца скіраванымі на захаванне адміністрацыйна-каманднай сістэмы і аднаўленне СССР. Спадар В. Кебіч неаднаразова выказваў жаданні павярнуць кола гісторыі назад і адкрыта заявіў пра гэта ў верасні 1993 года на нарадзе кіраўнікоў Гомельскай вобласці. Там між іншым прэм'ер-міністрам быў станоўча ацэнены камуністычны антыбеларускі «кангрэс народа Беларусі», у якім прынялі ўдзел такія адыёзныя фігуры камуністычнага замежжа, як генерал Сцерлігаў, Бабурын. Алксніс, Буракявічус, Церахаў. Там зневажалася наша дзяржава, нашы палітычныя каштоўнасці. Крымінальныя дзеянні некаторых удзельнікаў таго сходу цяпер добра вядомыя. Фенаменальна, што ўрад, як заявіў спадар Кебіч, збіраўся «очень ориентироваться» не на незалежнасць, не на будаўніцтва прававой дзяржавы і здаровай эканомікі, а на «дзеянні ўдзельнікаў» кангрэса, на імкненні, як трапна заўважылі гомельскія журналісты, ператварыць Беларусь у «ближнее Падмаскоўе». Пасля такіх заяў і «арыентацыяў» урад не мае маральнага права кіраваць краінай. Тым больш, што Саўмін ужо ператварыўся ў нейкую бюракратычную неўрадавую структуру, дзе розныя «ўпраўленні» і «дзяржсакратары» кіруюць міністрамі.

Але звернемся да эканамічнай палітыкі ўраду. У 1990 годзе Вярхоўны Савет прыняў праграму пераходу да рынкавай эканомікі. Пераходны да рынка перыяд павінен быў заняць два гады і завяршыцца ў канцы 1992 года. Дзе тая праграма і дзе рэформы? Рэформаў няма.

Самую вялікую шкоду зрабіў гэты ўрад, стварыўшы паліўна-энергетычны голад і не дапусціўшы ўвядзення нацыянальнай валюты. (Успомнім ашуканства Вярхоўнага Савета намеснікам прэм'ера спадаром Косцікавым пра забяспечанасць Беларусі нафтай).

Захаванне адміністрацыйна-каманднай эканомікі пры сусветных цэнах на энерганосьбіты немагчымае. Тым больш не можа існаваць дзяржава, калі крыніца грашовай эмісіі і адзіная крыніца паліўных энергарэсурсаў знаходзіцца ў іншай дзяржаве. Не разумець гэтага нельга.

Тым не менш урад не хоча гэта разумець, хоць побач яскравы прыклад краінаў Балтыі, якія пайшлі па шляху рэформаў, структурнай перабудовы эканомікі і, галоўнае, па шляху ўвядзення нацыянальнай валюты. Вынікі відавочныя і паспяховыя. Аналагічных прыкладаў дастаткова. У 1919 годзе пасля развалу Аўстрыйскай імперыі Чэхаславаччына хутка, за два тыдні, ўвяла свае грошы, стварыла незалежную валюту, пачала праводзіць жорсткую бюджэтную, грашовую палітыку і выратавала краіну.

На фоне станоўчых прыкладаў, гістарычнага вопыту і элементарных законаў эканомікі ініцыятыва Савета Міністраў Беларусі аб уваходжанні ў грашовую сістэму Расейскай Федэрацыі ў выніку банкруцтва ўласнай эканамічнай палітыкі выглядае дзяржаўным суіцыдам, нейкай з'явай, невытлумачальнай з гледзішча здаровай логікі. Гэтую дзіўную ненармальную ініцыятыву ізноў жа можна патлумачыць не эканамічнымі інтарэсамі Беларусі, а палітычнымі схільнасцямі Старшыні Саўміна, імкненнем любымі сродкамі пазбегнуць адказнасці за правалы ў эканоміцы, перакласці сваю віну на іншыя плечы.

Паводзіны ўраду і спадара В. Кебіча ў апошні час робяцца ўвогуле неадэкватнымі абставінам, характарызуюцца выразным авантурызмам.

Чым растлумачыць з'яўленне 5 лістапада напярэдадні сесіі хлуслівай, грубай, істэрычнай заявы Саўміна да грамадзянаў Рэспублікі Беларусі, дзе ўрад, засноўваючыся на «чутках», сцвярджае, што Народны Фронт, БЗВ, кіраўнікі шэрагу прафсаюзаў заклікаюць «да стварэння баявых дружынаў, узброеных выступленняў», «правакуюць насельніцтва на масавыя грамадзянскія беспарадкі», хочуць «узарваць палітычную стабільнасць у рэспубліцы, паспрабаваць любымі сродкамі захапіць уладу». А таму ўрад будзе абараняцца ўсімі, як сказана ў заяве,—«наяўнымі ў яго распараджэнні сіламі і сродкамі» і дасць «самы жорсткі і рашучы адпор».

Што гэта, выбачайце, за скамароства, спадар Кебіч? Вы думалі, што рабілі? Што Вы падпісалі? Якія такія ўзброеныя выступленні рыхтуюць БНФ ды прафсаюзы? Хто вам сказаў такое? Міліцыя? КДБ? Але ж там, здаецца, прафесійна разбіраюцца ў сваёй справе. Тады адкуль такое глупства? Можа мне спадар Э. Шыркоўскі і спадар У. Ягораў растлумачаць прыроду фантазіяў прэм'ер-міністра?

Дэпутаты павінны ведаць, чаму на працягу 2-х дзён, 9 і 10 лістапада, увесь Дом Ураду, двор, падыходы да Дому былі запоўненыя міліцыяй, спецназам, АМАПам, унутранымі войскамі ў поўнай экіпіроўцы (нават генералы ў палявой форме). Тут было больш батальёна. Што яны тут рабілі? Навошта яны тут былі? І ўвогуле, што азначае ўся гэтая дэманстрацыя? Хто і навошта загадаў ім тут быць? Навошта прыгналі «бэтээры»? Прашу даць падрабязны адказ.

Я не выпадкова задаю вам гэтыя пытанні, шаноўны Вячаслаў Францавіч. Дэпутатам ужо шмат што стала вядома пра гэтыя вашыя дзіўныя гульні і вашыя дзіўныя задумы. Тым больш хацелася б пачуць тлумачэнні.

Як вынікае з дакладу, спадар Кебіч не бачыць іншага выхаду з крызіснага тупіка, акрамя дзяржаўнага самазабойства. Ён ізноў прапануе аб'яднаць грашовыя сістэмы Беларусі і Расеі (дакладней, падпарадкавацца Расейскай грашовай сістэме). Тады—цытую з дакладу: «исчезают имеющиеся в настоящее время проблемы межгосударственных расчетов». Правільна, «исчезают». Як сказаў адзін камуністычны кіраўнік: «есть чэловек—есть проблем, нэт чэловека—нэт проблем». Так і тут: няма незалежнасці, няма дзяржавы—няма і праблемы міждзяржаўных разлікаў.

Можна, вядома, мець і такія думкі ў галаве. Толькі нельга з імі кіраваць урадам. А вось на выпадак, калі дзяржаўнае самазабойства не атрымаецца, тады, цытую з дакладу: «мы будзем **вынуждены** ввести национальную валюту». Пры гэтым спадар Кебіч, відаць, не разумее, што ў яго цалкам перавернутыя ўяўленні пра сутнасць эканамічнага развіцця. Нацыянальная валюта і фінансава-крэдытная сістэма—гэта тое, з чаго трэба пачынаць, і тое, на чым толькі і можа развівацца эканоміка, а не наадварот. Дарэчы, гэтую простую ісціну мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, паўтараем яму ўжо тры гады. Але ж ён не разумее.

Пра энергарэсурсы. У дакладзе мы пачулі, што «почти все поставки осуществляются централизованно...» «и вся острота этой проблемы замыкается на правительстве». «Так складываются обстоятельства, что правительство вынуждено ежедневно заниматься этими вопросами». Вы толькі падумайце—так, аказваецца, «складываются **обстоятельства** и правительство **вынуждено** заниматься».

Самае ж кепскае ў тым, што спадар Кебіч абсалютна не ведае і не разумее, што трэба рабіць далей, як выйсці з паліўна-энергетычнага голаду, у які ўрад загнаў нашае грамадства. У дакладзе пра гэта ні слова. Прэм'ер-міністр толькі паведамляе нам, што будзе расплочвацца за расейскую нафту валютнымі рэсурсамі. Пры гэтым спасылаецца яшчэ на прынцыпы байкі Крылова.

Прынцып тут, асабліва пасля дакладу прэм'ер-міністра, можа быць толькі адзін—зьмяніць увесь квартэт. Я хачу сказаць тое, што гаварыў амаль на кожнай сесіі—аб неабходнасці неадкладнай адстаўкі Савета Міністраў і стварэння пераходнага ўраду спецыялістаў. Існаванне цяперашняга ўраду небяспечнае для нашага грамадства.

Дзякую за ўвагу.

## Заява Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце

Спадары дэпутаты,
паважаныя грамадзяне.

Становішча ў краіне дасягае крытычнай мяжы. Два дні ў Вярхоўным Савеце разглядаліся шляхі выхаду з крызісу і дзейнасць Савета Міністраў Рэспублікі Беларусі, антынародная палітыка якога давяла да разбурэння беларускую эканоміку, да энергетычнага голаду, да беспрацоўя, да спынення вытворчасці і збяднення людзей. Менавіта гэты ўрад былой БССР і паслухмяны яму Вярхоўны Савет сваімі безадказнымі паводзінамі ініцыявалі «прыхватызацыю», разрабаванне дзяржаўнай маёмасці, затармазілі рынкавыя рэформы, паспрыялі стварэнню спекулятыўнага рынку і рынку дэфіцытаў, раскручванню махавіка інфляцыі, паставілі пад пагрозу дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Такі ўрад не можа кіраваць дзяржавай. Мы паставілі пытанне аб яго адстаўцы. Такі кіраўнік, як спадар Кебіч, які за тры гады нічога не зрабіў для сапраўднай рэформы, не павінен заставацца прэм'ер-міністрам. Выхад з крызісу без змены ўраду, без новых выбараў немагчымы.

Аднак ніякая крытыка, ніякія факты і аргументы аб безадказнай, разбуральнай дзейнасці ўрада і яго кіраўніка, ніякія сведчанні аб крытычным стане нашай эканомікі і нашага грамадства не ўздзейнічаюць на праўрадавую большасць Вярхоўнага Савета і яго Старшыню С. Шушкевіча. Яны, відаць, лічаць такое становішча нармальным, гэтак жа, як і далейшае існаванне збанкрутаванага ўрада Кебіча.

Два дні абмеркавання дзейнасці ўрада і пытання аб шляхах выхаду з крызісу, якое было ўнесена па прапанове Апазіцыі, не далі выніку. Рашэнне аб адстаўцы Савета Міністраў не прынятае; адкінутыя ўсе канструктыўныя прапановы па выхаду з крызісу; ратыфікацыяй пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэмаў Беларусі і Расеі пастаўлена пад пагрозу дзяржаўная незалежнасць Беларусі. Сам ход 13-й сесіі адбываецца з парушэннем рэгламенту, не вытрымліваецца парадак дня сесіі. Пытанні выносяцца на разгляд без падрыхтоўкі, без увагі на іх чарговасць; некаторыя дэпутаты наменклатурнай большасці галасуюць за адсутных. У гэтых умовах мы, дэпутаты Апазіцыі Народнага Фронту і іншыя дэмакратычныя дэпутаты, лічым далейшую працу Вярхоўнага Савета бесперспектыўнай, непатрэбнай для Беларускай дзяржавы. Мы будзем прымаць захады, каб растлумачыць людзям неабходнасць адстаўкі гэтага ўрада і правядзення нечарговых дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі.

Мы не бачым сэнсу ўдзельнічаць у паседжаннях 13-й сесіі, акрамя тых, дзе будуць разглядацца эканамічныя і палітычныя пытанні, што ўплываюць на лёс Беларусі і якія тычацца змены інстытутаў улады нашай дзяржавы.



Карыкатура Пятра Анашчанкі.

### Свет вакол нас

● Самымі актыўнымі кліентамі дзяржаўнага польскага тэлебачання сталі ў сёлетнім першым паўгоддзі «Unilever», «Procter and Gamble» і «Benckiser». Першы рэкламадаўца заплаціў 14,66% коштаў усёй рэкламы ТБ, другі—9,43%, а «Benckiser»—7,05%.

# «НОВЫЯ» КАМУНІСТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але назву падабралі. І калі «старая» кампартыя цярпела паражэнні дзякуючы відавочным практычным вынікам яе кіравання ды чыста папулісцкім прэтэнзіям да яе функцыянераў наконт прывілей, то новыя камуністы самі прэтэндуюць на апазіцыйнасць да «старой» кампартыі. Яны не бяруць на сябе адказнасць за мінулыя 70 гадоў і «прывілеі», яны сцвярджаюць, што сацыялізм дагэтуль не будаваўся, а «скажаўся». З імі ўжо прыйдзецца спрачацца па тэарэтычных пытаннях, наконт ідэй, хаця падобныя спрэчкі ў нашых умовах весці цяжка па дзвюх прычынах: па-першае, не шмат здольных зразумець сэнс гэтых спрэчак, а па-другое—яшчэ меней жадаючых.

Пад уплывам камуністычнай прапаганды ў нашым уяўленні склаўся ідэальны вобраз камуніста—чалавека ва ўсіх адносінах станоўчага, шчырага і нават аскетычнага, адным словам, Паўкі Карчагіна. Такія камуністы ў наш час маглі б быць сапраўды небяспечнымі, яны маглі б зноў завабіць людзей у пагоню за міражом.

Але менавіта гэтаму стэрэатыпу нашай свядомасці было суджана адыграць ролю, супрацьлеглую спадзяванням яго стваральнікаў. Іменна ён, гэты стэрэатып, вымушаў, па аповядах масквічоў, абсталёўваць стаянку для машын, на якіх прыязджалі кліенты спецразмяркавальніка, як мага далей ад яго, бо спецразмеркавальнік быў неабачліва размешчаны ў двары «Дома старых бальшавікоў». Каб бальшавікоў-ветэранаў раптам моцна не паменшала колькасна ад відовішча па-панску шыкоўных лімузінаў, бальшавікоў-нашчадкаў вымушалі хадзіць да кармушкі пехам.

Відавочнае несупадзенне аблічча рэальных асобаў з трывала замацаваным у масавай свядомасці ідэалам, падобна, і ўзарвала камунізм знутры.

Новыя камуністы спрабуюць прымусіць гэты ўкаранёны ў нашую свядомасць прапагандыцкі стэрэатып папрацаваць на сябе, імкнучыся паказаць, што ўсе заганы засталіся ў мінулым. Чаму ж тады камуністы, якім належыць быць шчырымі і непадкупнымі, дазваляюць сабе падтрымліваць і нават адкрыта абараняць урад Кебіча, які спрыяе дзейнасці камерцыйных (а якраз не вытворчых) фірмаў, які стварыў умовы для «прыхватызацыі», і супрацоўнікі якога перыядычна ўзгадваюцца на старонках газет у сувязі з буйнымі аферамі і проста службовымі злоўжываннямі? Калі ў Кебіча і камуністаў супадаюць погляды адносна эканамічнай дасканаласці савецкай мадэлі сацыялізма, то хай бы ўводзіў тут, на Беларусі, свой сацыялізм. А каб ельцынская Расія не замінала, хай бы адгарадзіўся мяжой ды сваёй грашовай адзінкай. А то ўзнікае ўражанне, што кіраваць Беларуссю на шляху да рынку Кебіча гвалтам прымушае Ельцын і БНФ, а сам Вячаслаў Францавіч узяўся ў адказ прадэманстраваць нам усе адмоўныя бакі капіталізму адразу, каб, маўляў, болей не хацелася.

А можа камуністы таму і патрабуюць, перш чым вяртаць сацыялізм, узнавіць Савецкі Саюз, што самі ўжо не спадзяюцца на магчымасці савецкага сацыялізму без распродажу сібірскіх багаццяў ды нафтадолараў? А можа той сацыялізм на самой справе ўжо і нікому не трэба, у тым ліку і камуністам?

Чаму камуністы ўваходзяць у адно палітычнае аб'яднанне («Народное движение Белоруссии») з дэпутацкім аб'яднаннем «Беларусь», якое мае большасць у парламенце, а значыць, з'яўляецца кіруючым і, такім чынам, нясе асноўную адказнасць за прыпыненне дзейнасці КПБ і ратыфікацыю Белавежскіх пагадненняў, а паколькі вялікая частка дэпутатаў з гэтага аб'яднання працуе ва ўрадзе, то яшчэ й двайную адказнасць за эканамічнае становішча ў краіне? Дзе ж прынцыповасць?

Тая камуністычная партыя, якая стваралася на руінах ленінска-брэжнеўскай, можа быць альбо бюракратычнай структурай, якой была на апошнім этапе сваёй дзейнасці, альбо паўпадпольнай арганізацыяй для ўзброенага захопу ўлады, якой была на пачатку свайго існавання. Яна проста ніколі не была нічым іншым, яна ніколі не была тут парламенцкай! І не варта параўноўваць яе з камуністычнымі (у пераважнай большасці ўжо—былымі камуністычнымі) партыямі Захаду—ідэалы рэдкага заходнееўрапейскага камуніста з шэраговых вытрымалі б выпрабаванне савецкай рэчаіснасцю, а ў савецкім грамадстве для людзей з поглядамі, якія дазвалялі сабе заходнія камуністы, заўсёды прызначалася месца, якое прынята называць не надта аддаленым.

Няўжо можна ўявіць сабе, што нашы каміністы будуць змагацца за правы рабочага Іванова, якому начальства на працы ніколі не скажа «вы»? Ды не, гэта—занятак для розных там сацыял-дэмакратаў, апартуністаў ды рэвізіяністаў. А наш камуніст будзе настойліва тлумачыць таму рабочаму Іванову, што начальства не лічыць яго за чалавека толькі таму, што сродкі вытворчасці належаць буржуазіі, а трэба іх аддаць народу, а народ будзе ўзначалены авангардам, а «авангард» шляхам дэмакратычнага цэнтралізму абярэ сабе правадыра, які пасля смерці акажацца, хутчэй за ўсё, неразумным, ці можа нават злачынцам...

А можа, нашыя камуністы возьмуцца за абарону правоў сексуальных меншасцяў, што, як правіла, уваходзіць у сферу дзейнасці заходнееўрапейскіх кампартый і, у прыватнасці, англійскай?

Але найбольш інтрыгуючай выглядае магчымасць удзелу камуністаў у выбарах на Беларусі з лозунгам узнаўлення Савецкага Саюза, хай нават і «абноўленага». А што ж яны будуць рабіць, перамогшы з гэтым лозунгам на выбарах у Беларусі, калі ў Расіі, гледзячы па апошніх падзеях, іх аднадумцам гэтага не ўдасца? У самой ідэі ўзнаўлення СССР з Менску ёсць нешта нацыяналістычнае. Няўжо будзе інтэрвенцыя і беларускія жаўнеры зноў будуць браць у аблогу Крэмль?

Такім чынам, пры захаванні незалежнасці Беларусі тутэйшыя камуністы самі пазбаўляюць сябе ўсялякай перспектывы. Нацыянал-камунізм 20-х гадоў, нацыянал-камунізм Жылуновіча і Чарвякова ды КПЗБ быў старанна вынішчаны самімі «чырвонымі» і ў выніку камуністычныя групоўкі на Беларусі зараз уяўляюць сабой цалкам чужародную, іншанацыянальную сілу, якой былі бальшавікі ў часы стварэння БНР. Іхнія настойлівыя патрабаванні дзяржаўнасці для расейскай мовы, іхняе яднанне з «саборнымі славянамі», якія адмаўляюць сам факт існавання беларускай нацыі, пераконваюць у тым, што, калі б была такая магчымасць, яны б не пакінулі Беларусі нават самай фармальнай аўтаноміі. Ды няўжо чалавек пры цвярозым розуме можа ўявіць сабе магчымасць узнаўлення таго аб'яднання эканамічных раёнаў пры штучных, дэкаратыўных Вярхоўных Саветах, якія існавалі толькі для выгляду, не мелі ніякай улады, але каштавалі, напэўна, немалых грошай. Саюз таму і развалiўся: пакуль у Саветаў не было ўлады—Саюз трываў, калі ж уся ўлада перайшла да Саветаў—яны яго і разадралі па частках, бо ў адной краіне не можа быць некалькі ўрадаў.

Дастаткова было ў свой час вучыць дыямат, каб ведаць, што двойчы ў адну раку не ўвойдзеш. Савецкі камунізм у сваёй артадаксальнай форме стаў мінулым, нават пры агульным жаданні вярнуць яго нельга. Адбыўся ўсеагульны зрух у свядомасці, які закрануў і камуністычны светапогляд, таму невыпадковыя з'яўляюцца парадоксы сучаснасці. Адным з іх ёсць тое, што новыя камуністы на Беларусі не выносяць бел-чырвона-белага сцяга, хоць яго ў свой час абвясціў дзяржаўным сацыялістычны ўрад БНР, затое цалкам станоўча ставяцца да прысутнасці на сваіх мерапрыемствах чорна-жоўта-белага сцяга «... Российской империи, двуглавого орла и православной церкви» («Рэспубліка» № 180 (467) ад 14.09.93).

Дарэчы, у даведніку, друкаваным у такія любыя сэрцу новых камуністаў застойныя часы, пра гэты апошні сцяг паведамляецца: «Неожиданное изменение русского флага произошло при Александре II. Указом от 11 июня 1858 г. был утвержден «рисунок гербовых цветов» Российской империи. Указ объявлял, что полотнище флага должно иметь три горизонтальные полосы: черную, желтую, и белую. Новые «национальные» цвета России геральдически объяснялись так: верхняя черная и средняя желтая полосы соответствовали черному орлу и желтому полю Государственного герба, а нижняя белая полоса—кокарде Петра I и белому всаднику св. Георгию.

... Высочайшее решение об утверждении новых «национальных» цветов России не было понято русским народом. Наряду с черно-желто-белым флагом сохранился и бело-сине-красный. Многие передовые люди того времени ратовали за восстановление в правах древнего бело-сине-красного флага, объясняя появление черно-желто-белых цветов немецкой ориентацией.

... К вопросу о флаге вернулись через 25 лет. Министр внутренних дел граф Толстой представил царю два флага: черно-желто-белый—как национальный и бело-сине-красный—как торговый. Александр III повелел иметь в России «один единообразный флаг, состоящий из цветов белого, синего и красного». (К. Иванов. Флаги государства мира. М. 1971.С.40-41.).

Відавочна, што расейскія шавіністы бачаць далей за сваіх саюзнікаў. Яны ведаюць, што калі дойдзе да ўзнаўлення Саюза, то цяпер пад любой назвай паўстане да жыцця жорстка цэнтралізаваная імперыя, у якой не будзе месца ніякай суверэннасці, ніякай аўтаноміі, а тым болей дэмакратыі.

Падзеі апошніх месяцаў даюць магчымасць у гэтым пераканацца. Яшчэ ў рэпартажы з ліпеньскага кангрэса «Фронта национального спасения» ў Маскве карэспандэнт газеты «Экспресс-хроники» Аляксандр Садчыкаў адзначыў узмацненне пазіцый камуністаў УФНС, вынікам чаго стаў выхад з яго Бабурына і Паўлава (№ 30 (312) за 30.07.93). Падобную сітуацыю ў расстаноўцы сіл на «Кангрэсе народа Беларусі» з жалем канстатаваў і карэспандэнт газеты «Рэспубліка». Але адзначым, што на той жа «Кангрэс» у Менск былі запрошаны менавіна Паўлаў, які ў ліпені ў Маскве гаварыў пра неабходнасць змірыцца з распадам СССР і «строить новую Россию с новой, имперской идеологией».

Яшчэ адзін запрошаны, Бабурын (якое супадзенне—таксама іншадумец у «пачырванеўшым» ФНС) гаварыў пра «воссоздание нашего братского федеративного государства» насуперак «разговорам о конфедерации». Яшчэ адным запрошаным быў Сцерлігаў, старшыня выканкама Думы «Русского национального Собора», баявым аддзелам якога «лейб-гвардыяй» па азначэнню журналіста з «Собеседника», былі фашысты Баркашова, што гаворыць само за сябе. У выніку погляды «кангрэсменаў» на Беларусі выразна абазначыліся тым, што ў прынятых рэзалюцыях і дэкларацыях выкарыстоўваецца расплывістая фармуліроўка «единое государство братских народов» без адзінай згадкі пра «саюз» (толькі як пра вынік колішняга гарбачоўскага рэферэндума, як пра мінулы факт).

Такім чынам выявілася сапраўднае значэнне слоў кіраўніка НДБ С. Гайдукевіча, якія ён сказаў на прэс-канферэнцыі непасрэдна пасля стварэння гэтай арганізацыі ў сакавіку гэтага года і, як цяпер стала зразумелым, толькі яшчэ рыхтуючыся да скаардынаваных з аднадумцамі ў Маскве рашучых дзеянняў: «На вопрос, как стремление к реанимации Союза согласуется с признанием суверенитета, С. Гайдукевич ответил категорично: «Нет такой организации в нашем объединении, которая бы выступала за восстановление прежнего Союза. Мы за восстановление связей производственных, экономических, культурных связей, за воссоздание системы коллективной безопасности...»(Н. Шелдышева. Ностальгия по настоящему.—«Советская Белоруссия» № 45 (18617) за 23.03.93).

Падобныя разыходжанні ў выказваннях у штодзённым побыце звычайна мякка называюцца няшчырасцю, але гэта й зразумела, бо да сваіх публічных выказванняў і друкаваных матэрыялаў самі камуністы заўсёды ставіліся, як да прапаганды, у першую чаргу разлічанай на «масы», а не на «сваіх». З-за гэтага таксама цяжка спрачацца з неакамуністамі.

Да таго ж вельмі падобна, што цяпер «беспартыйная» наменклатура знарок выпускае неакамуністаў на кароткім ланцугу, усялякім чынам спрыяючы іх дзейнасці, каб стравіць іх з БНФ, а самім такім чынам паказацца памяркоўным «цэнтрам» і спакойна працягваць «обделывать делишки».

Але з імі неабходна спрачацца, з імі, а болей з тымі, хто паддаецца іхняй прапагандзе, трэба гаварыць. Бо калі перастаюць размаўляць паміж сабой людзі, гавораць зброя.

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**г. Орша.**

*У мясцовых філіях*

## Каб падняць узровень

На чарговым паседжанні Каардынацыйнай Рады Віцебскай абласной арганізацыі АДПБ разгледжана грамадска-палітычнае становішча ў рэгіёне. У прыватнасці, усе выступаючыя адзначылі крайне нізкі ўзровень палітычнай актыўнасці насельніцтва вобласці. На яго, на думку аб'яднаных дэмакратаў, працягвае ўплываць цяперашняе становішча, палітыка людзей учарашніх, скіраваная на захаванне ранейшых цэннасных установак і паводзінскіх стэрэатыпаў у свядомасці народа.

Каб ініцыіраваць працэс да лепшага, сябры Рады вырашылі сістэматычна праводзіць канферэнцыі, семінары не толькі ў цэнтры, але і ў розных раёнах Віцебшчыны. Напрыклад, першую навукова-практычную канферэнцыю на тэму «Цывілізацыя і культура» мяркуецца правесці 12 снежня ў Бешанковічах.

Затым Рада абмеркавала заяву старшыні Віцебскай абласной арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, наваполацкага настаўніка Пятра Галіні аб супрацьпраўных дзеяннях некаторых адказных асоб у народнай адукацыі Наваполацка. Атрыманую інфармацыю было вырашана скіраваць у пракуратуру.

**Прэс-служба Віцебскай абласной і гарадской арганізацыі АДПБ.**

## Адным радком

У Гомелі прайшоў чарговы з'езд Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі.

* * *

У сувязі з перарэгістрацыяй клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» рыхтуюцца новыя яго статут і праграма.

**Н. КІЛДЗІНГ.**



**Іхнія аргументы супраць дэмакратыі.**
**Фота А. Лакоткі.**

# ЗАПРАЦАВАЛІ БЕСПРАЦОЎНЫЯ. У САЮЗЕ

З снежня ў Віцебску, у памяшканні прафсаюзных курсаў, адбыўся арганізацыйны сход саюза беспрацоўных. Ініцыятарам яго стварэння стаў Сяргей Салаўёў, колішні работнік афіцыйных прафсаюзаў, а цяпер беспрацоўны—звольнены па скарачэнню кадраў.

У сходзе прынялі ўдзел дэпутаты гарадскога і абласнога Саветаў, прадстаўнікі палітычных партый, прафсаюзаў, сродкаў масавай інфармацыі. Горача і зацікаўлена абмяркоўвалася цяперашняе становішча ў краіне, шляхі аб'яднання беспрацоўных у адзіную арганізацыю. Неадназоава гучалі прыклады бяздушных адносінаў улады, кіраўніцтва прадпрыемстваў да праблем радавых грамадзян. У аналізе тэндэнцый росту беспрацоўя дырэктар гарадскога цэнтра занятасці прагназаваў далейшае павелічэнне масы непрацуючых.

Спробы палітызацыі сходу былі дарэмнымі. Старшынствуючаму ўдалося накіраваць сход выключна ў абмеркаванне эканамічных цяжкасцяў. Загучалі прапановы павелічэння дапамогі па беспрацоўю, адкрыцця танных сталовых ды крамаў, звальнення працуючых пенсіянераў...

Але ў рэшце рэшт саюз быў створаны, кіраўніцтва выбрана.

**А. Б.**

рава Трохсвяціцельскага манастыра на беразе рэчкі Толвы ля Пскова Філафей. Гэтая асоба пісала пра сябе: «Я человек сельский, учился буквам, а еллинских борзостей не текох, а риторских астрономий не читал ни с мудрыми философами в беседе не бывал...». «Ён сцвярджаў, што першы Рым упаў з-за ерасяў, другі Рым—Канстанцінопаль—з-за сувязі з лацінянамі-каталікамі таксама загінуў, а цэнтр усяго хрысціянскага жыцця выратаваўся ад нявер'я ў Маскве. Рускі цар правіць Царквою Хрыстовою. Масква стала прыбежышчам святасці. І гэтым зараз вызначаецца яе роля: «Усе царствы праваслаўныя хрысціянскай веры сыйшліся ў тваё адзінае царства». Ідэю Філафея прасякаў цэзарапапізм, падпарадкаванне духоўнай улады ўладзе свецкай.

Пры пагрозе страты самастойнасці праваслаўных частак Рэчы Паспалітай у Берасці было вырашана павярнуцца да Захаду, абнавіць кананічнае адзінства з цэнтрам Усяленскай царквы ў Рыме. Гэта сведчыць, што кіраўнікі ўкраінскай і беларускай царквы хацелі быць паслядоўнымі выразнікамі украінскіх і беларускіх інтарэсаў, якім пагражалі з аднаго боку Польшча, а з другога Масква.

Гэтыя епіскапы хацелі пазбавіцца і патранату караля і вялікага князя і вяльможаў і падпарадкавацца непасрэдна, абмінаючы польскую каталіцкую царкву, Апостальскаму прастолу ў Рыме. Гэта мела важныя гістарычныя вынікі.

Наконт абвінавачвання епіскапаў-«рэнегатаў» у здрадзе. Каму ж яны здрадзілі, заключаючы Берасцеўскую унію? Свайму народу, перайшоўшы ў іншую веру? Не. Епіскапы, як былі хрысціянамі, так імі і засталіся. Яны не падаліся ў іншыю царкву, а наадварот, стварылі новую царкву ў адрозненне ад папярэдніх—Усяленскую па сутнасці і нацыянальную па форме, са спецыфічнай асаблівасцю—дагматычна-абрадавым сінкрэтызмам.

Яны інтэгравалі царкву ва ўлонне Усяленскае Апостальскае царквы. Гэтым епіскапы сапраўды, а не толькі пры малітве споўнілі дзевяты сімвал веры: «Веру ў адзіную, святую, саборную і апостальскую царкву».

Ці, можа, здрадзілі народу тым, што прынялі вучэнне пра чысцец? І гэта была страшэнная здрада народу? А, мо, яны здрадзілі праваслаўю? І тут, калі прааналізаваць, высвятляецца, што ніякай здрады ў сапраўднасці не было.

Усе трыццаць тры артыкулы дагавору пра унію, які падпісалі у снежні 1595 г. у Рыме епіскапы Іпаці Пацей і Кірыла Цярлецкі з папам Клімянтам VIII, сведчаць аб тым, што яны прагнулі зберагчы «ўсю красу і веліч усходняга абраду». Была захавана ўся літургія, пра што сведчыць наступны артыкул дамовы: «Богашанаванні і ўсе малітвы, раннія, вячэрнія і начныя, каб нам засталіся нязменныя па звычаі і абычаі, прынятым ва Усходняй царкве, самыя пры Літургіі—Васіля, Залатавустага і Епіфанія, якія бывае ў часы Вялікага Посту з папярэдне асвечанымі дарамі, а таксама ўсе іншыя абрады і цырымоніі нашае Царквы, што імі дасюль карысталіся падобна як і ў Рыме пад паслушэнствам найвышэйшага Архірэя: то зберагацца, каб тое ўсё мы выконвалі ў **нашай мове**». (Падкрэслена мною—**В. Г.**).

Прадугледжвалася народная размоўная мова для казаняў. Быў захаваны стары юльянскі каляндар (так званы стары стыль). Святарам не навязвалася забарона уваходзіць у шлюб. Царкоўная архітэктура магла развівацца ў традыцыйных формах.

Беларуская і ўкраінская царква, вызнаўшы знешнюю залежнасць ад Апостальскага прастолу, зберагла ўнутраную свабоду. Яе Іерархі хацелі захаваць за Царквою тое, чым яна была пры першахрысціцелі Русі—арганічнасць ва Усяленскай царкве. Яны прынялі частку дагматаў Заходняй царквы—аб верхавенстве папы ва ўсім хрысціянскім свеце, аб чысцілішчу а крыху пазней пра схаджэнне Святога Духа і ад Бога-Сына.

Гэта быў не бяздумны пераход на лацінства, а спроба сінтэзу ўсходняга абраду з заходняй дагматыкай. Гэты сінтэз культурных здабыткаў Захаду і Усходу, здзейснены на Беларусі і Украіне ў канцы XVI стагоддзя, у значнай ступені выконваў даўнюю мару еўрапейцаў аднавіць колішняе духоўнае адзінства грэка-рымскага антычнага свету, але на новай, хрысціянскай аснове.

**А што патрыярх Канстанцінопальскі? Фармальна ў дачыненні да яго ёсць элемент «здрады». На саборы быў абвешчаны разрыў з канстанцінопальскай патрыярхіяй. Па форме было так. А па сутнасці? Ці не Ерамія II, які кіраваў Усходняй царквою ў гады папярэдне Берасцейскай уніі, першым здрадзіў сваіх духоўных чадаў у асобе беларускіх і ўкраінскіх епіскапаў і іх паствы? Ён жа за «шчодрую міласціну» (цэбры золата і вязкі сабалёў) уласнаручна высвеціў незалежнага Маскоўскага патрыярха, надаўшы яму тытул «патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі»** (падкрэслена мною—**В. Г.**). **А менавіта апошняе прывяло ў адчай украінскіх і беларускіх епіскапаў, бо дасюль таго тытула маглі ўжываць толькі кіеўскія мітрапаліты.**

Ерамія II пасварыў украінскія і беларускія брацтвы з уладыкамі, бо даў некаторым з іх так званыя стаўрапігіяльныя (незалежныя ад духоўных пастыраў) правы. Разрыў беларускіх і ўкраінскіх уладык з дэмаралізаваным ва ўмовах турэцкага панавання цараградскім патрыярхатам—гэта здрада. А разрыў з Канстанцінопалем, які здзейсніла Масква ў 1589 годзе (калі там з'явілася асобная патрыярхія)—праява найвялікшай дзяржаўнай мудрасці?

Для тых часоў характэрнае як праява культурна-нацыянальнае абуджэння фармаванне самабытных нацыянальных культур, нацыянальных дзяржаў, нацыянальных цэркваў. У Чэхіі гэта была гусіцкая царква, у Англіі—англіканская, у Германіі—лютаранская, у Швейцарыі—цвінгліанская, у Францыі—кальвінісцкая, у Шатландыі—прэсвітэрыянская, у Расіі з 1589 г.—самастойнае патрыяршаства.

Цікава, чаму гэта чэхам, шатландцам, швейцарцам, французам, немцам, англічанам, рускім можна было ствараць самастойныя нацыянальныя арганізацыі, а беларусам і ўкраінцам нельга?

Пры гэтым Маскоўская царква не здабыла ўнутраную свабоду, а болей стала залежнай ад цароў, а ў рэшце рэшт, з часам пераўтварылася ў дзяржаўную царкву, якой кіраваў обер-пракурор Сіноду—свецкая асоба, залежная ад імператара.

Перайшоўшы ва уніяцтва, праваслаўныя іерархі атрымлівалі роўныя правы з каталіцкім клірам, шляхта і мяшчане грэчаскага абраду таксама мелі роўныя правы з каталіцкімі.

Грэка-каталіцкія (уніяцкія) цэрквы будавалі сваю арганізацыю па прыкладах, што браліся з Рыму. Шмат уніяцкіх святароў атрымлівалі асвету ў рымскіх калегіях, вяртаючыся дадому, яны прыносілі сюды лепшыя арганізацыйныя формы. Уніяцкія епіскапы рабілі перыядычныя візітацыі (аб'езды) сваіх парафій, дбалі пра паднясенне культуры духавенства, захоўвалі школы і шпіталі, правялі рэформу манастыроў. Сабор 1720 г. у Замосці ўвёў у жыццё беларускага і ўкраінскага грэка-каталіцкага духавенства аднастайную арганізацыю. Асаблівае значэнне набыў з таго часу рэфармаваны орден айцоў базыліян, якія сваю галоўную ўвагу прысвяцілі пашырэнню школ і выданню рэлігійных кніжак. На капітуле (радзе пры біскупу) грэка-каталіцкіх іерархаў у Дубне (1783 г.) быў створаны адзін чын святых базыліян, які арганізацыйна падзяляўся на правінцыі Літоўскую, Беларускую, Каронную і Галіцкую. Цэнтрам выдаўнічай дзейнасці на Беларусі быў Супрасль.

Унія заўдзячыла свой рост той абставіне, што давала беларускаму (як і ўкраінскаму) грамадству забяспечанне ад апалячвання. Грэка-каталіцкая царква знаходзілася пад апекаю не Польскай царквы, а Рыму. Рымская курыя (царкоўны ўрад) у сваіх афіцыйных заявах забяспечвала грэка-католікам поўную непарушнасць іхніх абрадаў і звычаяў, зазначаючы, што яе пажаданнем «ёсць, каб усе былі каталікамі, але не ўсе лацiннікамі». Праўда, у рэчаснасці на месцах гэта не заўсёды выконвалася, абшарнікі-рыма-каталікі прыцяснялі ўніяцкіх святароў, аддаючы перавагу рыма-каталіцкім. Тым не менш, пад аховаю грэка-каталіцкай царквы беларускае жыццё магло хоць часткова захаваць свае даўнія формы.

З амбонаў грэка-каталіцкіх (уніяцкіх) цэркваў (як і ў пратэстанцкіх храмах) гучала беларускае слова ў тыя часы, калі ў рыма-каталіцкіх касцёлах чулася лацінская і польская, а ў грэка-праваслаўных цэрквах—царкоўна-славянская—усе далёкія ад беларускай.

Царкоўная унія была працягам шляху, які пачаўся даўней прадстаўнікамі культуры Беларусі «Залатога» XVI стагоддзя, што жадалі аб'яднаць традыцыі візантыйскай царквы з Заходняю, развіваць натуральную культурную еднасць Беларусі як з Усходняй, так і з Заходняй Еўропай. Гэты працэс адбыўся ў агульным рэчышчы, у якім развівалася беларуская культура.

І калі сярод першых беларускіх асветнікаў не было грэка-каталіцкіх святароў (як гэта адбывалася на Украіне, у заходняй частцы якой менавіта яны былі ініцыятарамі нацыянальнага адраджэння), то не па віне гэтых святароў. Бо большасць іх прымусілі перайсці ў грэка-праваслаўную, веру, якая была пануючай канфесіяй тагачаснай Расіі. Тым больш, што наша адраджэнне спазнілася ў параўнанні з суседнімі ўкраінскім і літоўскім (ой, як баяцца савецкія беларускія гісторыкі такіх параўнанняў, як агня!). А ў літоўскім нацыянальным адраджэнні наперадзе йшлі нацыянальныя рыма-каталіцкія святары біскуп Мацей Валанчус, прала́т Йонас Майроніс, ксёндз Антонас Баранаўскас, кіраўнік барацьбы супраць царызму ў 1863 г. ксёндз Антанас Мацкявічус.

І ў нашым спозненым адраджэнні рыма-каталіцкія святары (грэка-каліцкіх да таго часу ўжо не засталося) таксама адыгралі значную ролю. Дастаткова назваць такія імёны як Казімер Сваяк, Аляксандр Астромавіч (Андрэй Зязюля), Адам Станкевіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Язэп Германовіч і іншыя.

Але ў той час, калі ў Літве ў Коўне памяць Й. Майроніса адзначана і пышным надгроб'ем ля мура кафедральнага сабору, якое захавалася нават у савецкі час, памяць нашых ксяндзоў-адраджэнцаў «мінула з ветрам» ... Але гэта ўжо іншы сюжэт, які патрабуе спецыяльнага разгляду.

**Валенцін ГРЫЦКЕВІЧ.**
**Санкт-Пецярбург.**

# Епархія прэтэндуе на гімназію

Біскуп Віцебскі і Аршанскі Беларускага Экзархату Маскоўскай Патрыярхіі Дзімітрый звярнуўся ў Дзяржкамітэт па прамысловасці Беларусі. Ён просіць перадаць Віцебскай праваслаўнай епархіі будынак № 7 па вуліцы Крылова ў Віцебску, абгрунтоўваючы гэта неабходнасцю аднаўлення Успенскага кафедральнага сабора. Біскуп Дзімітрый пазначае дом 7 па Крылова як «здание бывшего монастыря».

Вядома, што згаданы храм (дакладна царква Базыльянскага кляштара ў імя пакутніка Іасафата Кунцевіча і Успення Прачыстае Маці Божай) сапраўды быў адметным помнікам познебеларускага барока. Не знаю, у якім выглядзе праваслаўная епархія збіраецца аднаўляць помнік—у першапачатковым беларускім ці ў скалечаным псеўдарасейскім. Як пахабна абыходзяцца служкі Маскоўскай Патрыярхіі з беларускай архітэктурай—добра відаць на прыкладзе Пакроўскай царквы ў Віцебску. Ад класіцыстычнай базілікі Трынітарскага касцёла нічога не засталося, навешалі толькі маскоўскіх цыбулін, несапраўдны купал (як свінні хамут) ды расейскія крыжы.

Але самае цікавае ў тым, што будынак на вуліцы Крылова ніколі не належаў праваслаўнай епархіі, нават у часы анексіі беларускіх земляў Расейскай імперыяй. У тыя гады тут знаходзілася гімназія. Зразумелым ёсць памкненне Віцебскай праваслаўнай епархіі атрымаць у валоданне пустуючы зараз дом. Праўда, гэтае жаданне выглядае дзіўнаватым, бо праваслаўная епархія сёння валодае ў месцы будынкамі №№ 13, 15 па вул. Талстога, ёй аддадзеныя цэрквы Дабравешчанская і Успенская адзінаверская (апошняя размешчана ў батанічным садзе). Епархія валодае будынкам былога Трынітарскага кляштара (зараз Свята-Пакроўскі кафедральны сабор). У той жа час віцебскае праваслаўнае духавенства не праявіла зацікаўлення да драўлянай царквы ў вёсцы Дарагакупава, бо далёка ад горада, і гэты храм, помнік архітэктуры XIX ст., паспяхова згарэў летам мінулага года. Падобна на тое, што мэты епархіі далёкія ад мэтаў хрысціянства і зберажэння беларускага дойлідства. Галоўнае—нахапаць паболей, покуль ва ўладзе дружбакі-камуністы, а далей хоць трава не расці.

**М. ПАЎЛАЎ.**

# Што мы знаем пра Ушачы?



Напэўна, першае, што неяк акрэсліць уяўленне аб існаванні мястэчка—мемарыяльны комплекс «Прарыў», з грувасткаю постаццю бронзавага партызана, у стылі савецкага ваяўнічага рэалізму. Дарэчы, апошнія згадкі ў друку аб Ушачах былі звязаныя з інцыдэнтам вакол комплексу—гандляры каляровым металам знеслі з ансамбля частку дробных бронзавых дэталяў (партызан, вядома ж, аказаўся не па зубах, бо і гандляры, відаць, былі дробныя).

Такія знакі культуры добра вядомыя не толькі раённай, але і сталіцы абласной (успомнім знесеную мемарыяльную пліту з сімвалічнае магілы маці Я. Райніса на старых Сямёнаўскіх могілках).

Тое, што бачыць шаноўны чытач на здымку, зноў да болю вядомы знак тае ж «культуры», якую гадамі дэманстраваў Віцебск сваім «малодшым браткам» у раёнах. Вялікае начальства знішчала «падуладную» ёй гісторыю, малое, «шагая в ногу»—сваю, мясцовую. Так і стаіць у старых Ушачах між іншым (у гэтым годзе толькі магдэбургскаму праву горада споўнілася 235 год) адзіны ўжо знак забытае гісторыі, маляўнічыя руіны неагатычнага касцёла на ўзгорку. Абрабаваны бронзавы партызан ды чырвоныя руіны—усё, што згадвае ў свеце аб існаванні сталіцы цэлага раёна беларускае зямлі. Але ж прэтэнзія на сталічнасць павінна пачынацца найперш з культуры...

P.S. Дарэчы ва Ушачах я быў даўнавата. Няўжо так і не дайшлі рукі да апошняга знаку былое ўшацкае гісторыі?

**Алесь МЕМУС.**
**Фота аўтара.**

